№ 11-12 [26-27]

Лістапад-Сьнежань 1949 г.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

З ВЕДАЙ, ВЕРАЙ, НАДЗЕЯЙ І ЛЮ- БОЎЮ ДА ЛЕПШАЕ БУДУЧЫНІ.

Часапіс Беларускае рэлігійнае думкі.

«SUR LA VOIE DIVINE». Mensuel religieux biélorussien.

Цана нумару 40 фр.

Адрэс рэдакцыі:
Adresse : Redaction, 51, rue des S-ts Pères, Paris (6).
Chèque Postal : Paris c. 628744.

Падпісная цана на год 350 фр.

# Хрыстос раджаецца!



Сьвята нараджэньня Хрыста мусіла-б быць найбольш радасным сьвятам для людзей, бо гэтае сьвята ёсьць найяскравейшым выявам бесканечнае любові Бога да людзей. Але з боку людзей яно сталася паказчыкам неймавернае закамянеласьці людзкіх сэрцаў і тым самым накладае цень на гэтую радасьць.

Нараджэньне Хрыста суправаджалі розныя нязвычайныя падзеі на небе і на зямлі. Ангелы ў высі пяялі ў радасьці: «Слава на вышынях Богу а на зямлі мір людзям добрае волі»; на небе зьявілася нязвычайная зорка; шматлікім мудрацом на Усходзе (магам) і на Захадзе (Сыбільлі) было аб'яўлена аб нараджэньні Збаўцы сьвету. У адказ на гэтыя падзеі толькі бедныя бэтлеемскія пастушкі і тры ўсходнія мудрацы-магі прыйшлі аддаць Нованароджанаму належны паклон і пашану. А рэшта? Аграмадная бальшыня з гэтае рэшты ня ведала аб тым, што здарылася. Але ці яны зрабілі-б інакш, каб ведалі? Паглянь-ма, што зрабілі жыдоўскія старшыні і кніжнікі, якія аж надта добра ведалі аб нараджэньні Збаўцы-Мэсіі.

Шматлікія прароцтвы цэлыя стагодзьдзі наперад падрыхтоўвалі ўвесь выбраны народ і перадусім ягоных старшыняў да прыходу Збаўцы. У прароцтвах было азначана і мейсца і час нараджэньня. Пры ерузалімскай сьвятыні жыў праведны Сымэон, якому Бог дадаткова аб'явіў, што перад сьмерцю пабачыць Мэсію; і ў часе абрэзаньня Хрыста Сымэон урачыста абвяшчае: «Сёньня бачылі вочы мае, збаўленьне Тваё...» Прарочыца Ганна пры гэтай нагодзе абвяшчала ўсім аб тым, што нарэшце споўніліся прароцтвы аб Мэсіі. У гэтым часе ўсходнія мудрацы-магі зьяўляюцца ў Ерузалім, Ірад склікае нараду кніжнікаў для дакладнага азначэньня мейсца нараджэньня Хрыста і пасьля гэтае нарады мудрацом быў паказаны шлях у Бэтлеем, але ніхто з кніжнікаў і старэйшын не захацеў далучыцца да ліку паклоньнікаў Хрыста. Толькі крывавы Ірад рыхтаваў меч, каб напасьці і загубіць Нованароджанага.

## Усіх падпішчыкаў і чытачоў рэдакцыя вітае
## З СВЯТАМ НАРАДЖЭНЬНЯ ХРЫСТА
## і жадае шчасьлівага НОВАГА ГОДУ

І зноў стала ціха роўна 12 год. Калі аднойчы ў ерузалімскай сьвятыні зьяўляецца дванаццацігадовы юнак і зачынае распытваць жыдоўскіх кніжнікаў аб Мэсіі; тры дні прадоўжваецца гутарка, дзівуюцца кніжнікі мудрасьці юнака, і не знаходзяць адказаў на Ягоныя пытаньні. Але ізноў заціхла ўсё на 17 гадоў, як раптам разьлёгся гучны голас у пустыні; гэта клікаў Хрыстоў прадцеча Іван Хрысьціцель, што ўжо Хрыстос на Зямлі і што трэба чыніць пакуту для яго належнага спатканьня. Натаўпы людзей сходзяцца да Івана ў пустыню, уважна слухаюць навуку і хрысьцяцца, аднак калі трэба ўспрыймаць гэтую навуку і чыніць пакуту — мала знайходзіцца ахвотнікаў.

Нарэшце сам Хрыстос выходзіць з укрыцьця на шырокі сьвет з усею сваею веліччу і магутнасьцю, з нячуванаю боскаю навукаю і шматлікімі цудамі. Тысячныя натаўпы народу сходзяцца да Хрыста, слухаць навуку, падзіўляць цуды, але калі трэба выконваць гэтую навуку — зноў мала жадаючых. Багацьце, улада і слава сталіся для людзтва ўсеўладнымі ідаламі і нават выбраны, народ, асабліва ягоныя верхаводы так былі засьлепленыя ў іх, што не хацелі прызнаць ніякага Мэсіі, які-б сам не аддаў паклону гэтым ідалам. Нават між апосталамі часам украдалася зьнявера; тады з сумам клікаў Хрыстос: «О род няверны і крывадушны, дакуль буду з вамі? дакуль буду цярпець вас?» (Мат. ХУІІ.17). Аднак цярпеў Хрыстос далей і да нязьлічаных цудаў дадае штораз большыя. І калі ўваскрасіў Лазара, якога труп ужо пачынаў раскладацца, слава Хрыста лунала па ўсёй Палестыне. Калі пасьля гэтага Хрыстос уязджаў у Ерузалім, натаўп вітае Яго магутным «осанна сыну Давідаваму» — ад гучных воклічаў аж дрыжэлі ерузалімскія сьцены, але сэрцы верхаводаў жыдоўскага народу і цяпер асталіся нячулымі. У абліччы ўслаўленьня Хрыста іхныя сэрцы камянелі яшчэ горш; натаўп пачаў ім патураць.

Бязьмежная Божая любоў стануўшы перад людзкою злобаю і закамянеласьцю сэрцаў нарэшце быццам дапоўніла сваю мерку. З дакорам і жалем зьвяртаўся Хрыстос да выбранага места: «Ерузаліме, Ерузаліме, забойца пракракаў, каменьнямі пабіваючы пасланых да цябе! Колькі разоў Я хацеў сабраць дзяцей тваіх, як квахтуха зьбірае куранят пад крыльлі свае і вы не захацелі. Вось-жа астаецца вам дом ваш пусты». (Мат. XXIII. 37-38). Глядзеў Хрыстос на выбранае места — Ерузалім — і плакаў... бо няверны горад меў быць зьнішчаны ў жахлівы спосаб. «Камень на камені не астанецца ад яго» казаў Хрыстос сваім вучням. Незадоўга гэтае прароцтва споўнілася даслоўна і потым некалькі раз паўтаралася.

Ці было-б інакш, каб Хрыстос зьявіўся ў іншым мейсцы? Ці было-б інакш, каб Ён меў нарадзіцца сёньня ў нас?

Гэткія пытаньні напрошваюцца самі сабою і боязна на іх даваць адказы. Пэўна-ж сьвяткуючы амаль двутысячны раз сьвята нараджэньня Хрыста, сьвет мусіў-бы шчыра радавацца, што Бог прыйшоў да нас — немачных людзей, прынёс нам адвечную Праўду, але мы ня можам ня бачыць над яслямі, дзе ляжала нованароджанае Дзіцятка, прывіду Крыжа, ня можам ня чуць побач цудоўных гукаў ангельскае песьні разьдзіраючага душу енку нявінна мардаваных дзетак у Бэтлееме; за плячыма мудрацоў з Усходу нельга ня бачыць крывавага аблічча Ірада. Мы так-жа ня можам ня бачыць сучасных мільёнаў абыякавых, якія глухія на калядныя званы, хоць вельмі чулыя на звон кілішкаў; ня можам ня бачыць мільёнаў глухіх на кліч бездапаможных і безбаронных, але вельмі чулых на звон золата. Уканцы мы ня можам не заўважыць у самых сабе абыякавасьці да справы збаўленьня душы, да выконваньня Божых прыказаньняў; дык ці пайшлі-б мы самі сьледам за бэтлеемскімі пастушкамі і ўсходнімі мудрацамі да Хрыста?

Мы бачым сёньня выразна, як сьвет падзяліўся на паклоньнікаў і ворагаў Хрыста — абыякавыя раней ці пазьней, сьведама ці нясьведама далучаюцца да аднае з гэтых групаў. Нават між ахрышчанымі ня мала ёсьць такіх, аб якіх Хрыстос казаў: «Гэтыя людзі вуснамі паважаюць Мяне, але сэрцы іх далёка ад Мяне». (Мар. VII, 6). Тымчасам людзкіх сэрцаў найбольш жадае Хрыстос.

Лёгка нам знайсьці словы нaганы на калішніх жыхароў Бэтлееему за тое, што ня пусьцілі Багародзіцы на начлег і Хрыстос мусіў радзіцца ў апушчанай шопе і замест калыскі легчы ў жолабе, але ці мы сёньня адчыняем свае сэрцы для Хрыста? Ці ўспрыймаем Ягоную праўду?

Можна спадзявацца,што гэтыя радкі калі будуць чытаць, дык пераважна тыя, якія маюць добрую волю і жаданьне адчыніць Хрысту свае сэрцы. У рукі тых, якія ўцякаюць ад Хрыста, цяжка ўлажыць пабожнае слова. Аднак і самым шчырым вернікам трэба няраз ставіць такія вострыя пытаньні, каб ажывіць пабожны дух, бо жывучы ў

абыякавым асяродзьдзі кожны з нас нясьведама патроху заражаецца абыякавасьцю, якую мусім абавязкава страсьці з сябе перад тым, як сядзем да калядная сьвятое вячэры. Яе трэба абавязкава пазбыцца, каб належна адсьвяткаваць нараджэньне Хрыста.

Усходнія мудрацы-магі, паслушныя голасу аб'яўленьня прайшлі доўгі і цяжкі шлях, каб магчы ўшанаваць Хрыста, аддаць Яму належную пашану і свае царскія дары: золата — на знак валадарскае ўлады Хрыста, ладан — на знак Ягонае Боскасьці, сьмірну — на знак, што Хрыстос ёсьць Збаўца. А мы? Што мы даём Хрысту ў ахвяры? Скарбаў мы ня маем, гэта праўда, дый Ён не патрабуе іх ад нас, але маем празьмерна самалюбнае і непакорнае «я», якое часта стае ўпапярок Божым плянам і да тае ступені часта запаўняе нашы сэрцы, што не пакідае зусім мейсца для Хрыста. Вось яго, гэтае непакорнае «я», аддайма ў ахвяры Нованароджанаму і гэтым самым зробім мейсца для Хрыста ў нашым сэрцы. Тады народзіцца ў кожнага з нас той, ангеламі абвешчаны, мір людзям добрае волі, тады скаштуем сапраўдную калядную радасьць бяз ніякае цені і пачуўшы царкоўнае прывітаньне: Хрыстос раджаецца! з радасьцю адкажам: Славіце Яго. Бо Яго будзе славіць наша сэрца.

# Бог і Аб'еднаныя Нацыі

У вялікіх міжнародных праблемах сёньняшняга дня вельмі рэдка ўспамінаецца імя Божае, быццам Бог ня ёсьць тым адзіным вузлом, дзе павінны сходзіцца усе людзкія інтарэсы, а проста нечым непатрэбным, бескарысным і шкодным.

Так яно сталася ў часе дыскусыяў у ОНЮ (ААН — Арганізацыя Аб'еднаных Нацыяў) — піша Рышард Арэс у «Рэлясіён» — калі разглядалася справа азначэньня правоў чалавека. Здавалася-б зусім натуральным, і дзеля таго не падлягаючым дыскусіі, прызнаць Бога прынамся, як крыніцу права, бо слова «Бог» не канешне для ўсіх мае азначаць хрысьціянскага Бога. Усе людзі маглі-б прыняць ідэю Бога, кожны паводля свайго веравызнаньня. Але сталася зусім інакш. Калі дайшло да патаньня, ці ўспомніць Бога на ўступе Дэклярацыі Правоў Чалавека, погляды былі на толькі разьбежныя, што трэба было вырачыся нават дыскусыі, каб ня быць пасуджаным у нахабным накіданьні волі аднэй толькі групы для ўсяго збору.

Аж тры разы роблена папраўкі дэлегатамі розных краінаў адносна параграфу, што права чалавека бярэ свой пачатак ад Бога. Першы закрануў гэтую справу дэлегат Лібану ў сувязі з параграфам аб сям'і. Лібанская прапанова адносілася да сказу: «Сям'я абдараваная Створцам нязьменнымі правамі...» Дзевяцьцю галасамі супраць шасьці за прапановай, яна была адкінута. Між галасуючых супраць былі вялікія эўрапэйскія дзяржавы, тады калі Кітай і Індыя галасавалі за прапановай.

Другая спроба выйшла ад Бразыліі, каторая дала прапанову, каб ува ўступе Дэклярацыі ўпісаць сказ: «Чалавек створаны на вобраз і падабенства Божае». Некаторыя паўдзённаамэрыканскія краіны і пару іншых горача падтрымоўвалі гэтую прапанову, але пасыпаліся аргуманты супраць. Бразылія бараніла сваю прапанову, даказваючы, што Дэклярацыя прызнаючы сваім беспасрэдным апякуном Нябеснага Айца знайшла-б зразуменьне ды йшла-б насустрач рэлігійных сэнтымэнтаў бальшыні народаў, і ў кожным народзе большай часткі людзей, ня гледзячы на тое, якая-б ня была іхняя рэлігія. Аргэнтына, Балівія, Калюмбія і Лібан падтрымоўвалі Бразылію безсасьцярожна, кажучы, што гэты сказ ня толькі ня гвалціць нічыйго сумленьня, але ён бярэ пад увагу вераваньне супольнае ўсім народам і ёсьць карысным для кожнае палітыкі, бо-ж рэлігія акурат вядзе на шлях супакою — што ёсьць найвышэйшым лятуценьнем усіх народаў.

Супраціў ішоў з тох бакоў. Перадусім гаварылася: справа паходжаньня чалавека ад Бога ёсьць вельмі далікатнай і асабістай, што робіць яе немагчымай да прыняцьця там, дзе вымагаецца азначэньне чыста юрыдычнае. Далей цьвердзілася, што зьмест правоў чалавека зьяўляецца дакумантам толькі праўнага характару, дзеля таго не павінем зьмяшчаць цьверджаньняў філязафічна-рэлігійнага, ці мэтафізычнага характару; ён-жа павінен быць прыняты ўсімі людзьмі, незалежна ад таго, якое яны трымаюцца філязофіі і сьветапогляду. Уканцы дадавалася, што праблема боскага паходжаньня чалавека ёсьць вельмі аспрэчванай і цверджаньне, якое-б ня было прынята аднагодна, выглядала-б на нахабнае накідваньне іншым чагосьці няпрыймальнага. Нарэшце савецкі дэлегат назваў папраўку ў Дэклярацыі Правоў Чалавека «азнакай адсталай мэнтальнасьці ў галіне грамадзкага ладу», на што дэлегаты Балівіі і Калюмбіі запратэставалі супраць тых тэорыяў, якія паходжаньне чалавека тлумачаць пасабачаму, адкідаючы іхняе бессаромнае цьверджаньне.

Як-бы там ня было, «справа Бога» і гэтым разам была «прайграна».

Трэцяя спроба была зроблена дэлегатам Галяндыі а. Бэанфорт, прафэсарам каталіцкага унівэрсытэту ў Німэга. Яго прапанова мела на мэце ўвясьці ў першы параграф уступу сказ, паводля

якога правы выяўленыя ў Дэклярацыі Правоў Чалавека ёсьць апёртыя на «божым паходжаньні і на несьмяротным прызначэньні чалавека». У доўгай заяве галяндзкі сьвятар стараўся выказаць, як моцна гэты сказ спрычыніўся-б да падняцьця годнасьці чалавека і быў-бы для яго напамінам аб гэтай годнасьці і аб адказнасьці. Нічыё вераваньне гэтым ня было-б парушана, хоцьбы нават самых агностыкаў, якім зусім гэтая прапанова бясшкодная. Прыняўшы яе, тым самым была-б даная сатысфакцыя шматлікім вернікам. Дэклярацыя павінна стацца поўнасьцю «чалавечая», а каб такой была ў сапраўднасьці, павінна абымаць поўнасьцю натуру чалавека і азначыць яго ў цэласьці, а дзеля гэтага трэба так-жа ўзяць пад увагу ягоныя адносіны да Створцы. Немагчыма зрэдагаваць тэкст правоў чалавека, адрэзваючыся ад мэтафізычных фундамантаў. Гэтак бараніў свае думкі галяндзкі дэлегат.

Прапанова галяндца атрымала падтрымку з боку Балівіі і Бразыліі. Англія, Аўстралія і Бэльгія аб'явілі сябе абыякавымі; усе іншыя паўсталі супраць дзеля таго, каб ня «зьвязваць»: навуку, сьвецкасьць, вольнасьць сумленьня і прагрэс. Выступалі супраць ад імя навукі, бо зьмест галяндзкага дэлегата падняў-бы вельмі аспрэчванае пытаньне і прыналежнае да філязофіі, а ОНЮ(ААН) — гэта ўстанова сьвецкая і не павінна займацца рэлігійнымі справамі. Выступалі супраць ад імя вольнасьці сумленьня, бо прапанаваная папраўка магла-б пашкодзіць вольнасьці, бо ня брала-б пад увагу тых, якія ня прызнаюць ніякае рэлігійнае ідэі. Выступалі супраць ад імя прагрэсу, бо ня выпадала вярнуцца некалькі вякоў назад, калі ўжо Дэклярацыя Правоў Чалавека з 1789 г. выкінула ўсякі рэлігійны дзейнік.

Яшчэ лішні раз прапанавалася імя Бога і яшчэ лішні раз усё было адкінута ў імя згоды паміж членамі Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў, каторая магла-б быць парушана ў выпадку, прыняцьця большасьцю галасоў прапананай папраўкі.

Дарэмна былі робленыя стараньні, каб перасьцерагчы перад тым звыраднелым паняцьцем крыніцы правоў чалавека, якое з чалавека робіць звычайную прыладу дзяржавы. Адказныя прадстаўнікі адмовілі Богу мейсца ў іхняй працы; яны не дапусьцілі нічога супольнага з Ім; Яго правы ўважалі звычайнай эманацыяў Аб'еднаных Нацыяў.

Вось трагэдыя нашых часоў! Бо што чалавек збудуе бяз Бога, яшчэ хутчэй гэта зруйнуе, а друзы падаючай бязбожнай будыніны вельмі лёгка могуць прыдушыць і самога бязбожнага будаўнічага.

Паводля «Льосэрваторэ Романо» з дня 23-IX-49 апрацаваў а Ч. С.

# ТЫ І ЯНА

Разьдзел 5-ы

## НЕДАСЬПЕЛАЕ КАХАНЬНЕ.

(Працяг 8-ы)

Маладзі ў веку дасьпяваньня, каагул не ўдаецца ўгрымаць адносіны між рознымі поламі ў межах брацкага сяброўства. На доказ гэтага а. Лінс прыводзіць, як цікавы прыклад, разьдзел з кнігі «Паромшчык» д-ра Рэкайса. Малады хлапец і дзяўчына пыталіся яго лістоўна, ці яны могуць стацца для сябе прыяцелямі. Пасьля доўгае развагі. а. Лінс пастанавіў зрабіць дасьведчаньне, ці такога роду сяброўства ня ёсьць немагчымым. Абставіны былі выняткова памысныя. Юнак прызнаўся, што праз гэтае сяброўства ён стаўся другім чалавекам. Бацькі дзяўчыны далі свой дазвол на сяброўства пад умовай, што яны заўсёды будуць ведаць, калі маладыя сустракаюцца. Адпісаў тады а. Лінс вельмі сур'ёзна і вызначыў непераступальныя межы сяброўства, мэтай якога мела стацца ўзаемная падтрымка на зорным і чыстым шляху.

Па даўжэйшым часе абое пераканаліся, што памыліліся. Ня гледзячы на спрыяючыя абставіны, ня гледзячы на тое, што духоўны апякун мог быць зусім пэўны, што абое, каторых знаў ад дзяцінства, былі натхнёныя шляхотнымі лятуценьнямі, што яны будуць прытрымоўвацца ягоных радаў і перасьцярогаў; ня гледзячы на тое, што яны жадалі толькі чыстага, шляхотнага сяброўства і спатыкаліся толькі з ведай бацькоў — на самым толькі чыстым сяброўстве ня скончылася. Любоўны нахіл будзіцца з напорыстым імкненьнем і разьдзьмухвае полымя, якога маладыя людзі ўжо ня ў стане апанаваць.

Некаторыя з маладых сябе пераконваюць і пастанаўляюць перарваць усе цялесныя адносіны, як толькі заўважаць, што знаёмства стаецца для іх небясьпечным. Яны забываюцца, што праступства, асабліва на самым пачатку, ёсьць вынікам не спакойнай развагі, але адною хвілінаю забыцьця ў якой палкасьці ўзялі верх. Пасьля гаворыцца: «Тады я ўжо ня ведаў, што раблю», «Не магу сам зразумець, як я мог гэтага дапусьціцца» — але ўсё ўжо пачасе. Да таго трэба ведаць, што пачуцьцё ўмее так завалодаць сэрцам чалавека, што большыня людзей ня мае сілы, каб парваць адносіны, хоць самі добра бачаць надыходзячую небясьпеку. Так выглядае праўда сьцьверджаная нязьлічанымі фактамі дасьведчань-

ня. Хто ня хоча паверыць тым, якія пераканаліся ў сваім жыцьці аб гэтай сумнай рэчаіснасьці, той пасьля на сваіх уласных перажываньнях сьцьвердзіць, што перасьцярогі былі слушнымі.

Узрушаючa скаржыцца ўпаўшая Грэтхэн у «Фаусьце» Гэтага:

О, Божа, усё, што туды мяне завяло,
Выдавалася добрым, ласкавым і мілым!

Бяз сумніву, Грэтхэн ня мела ніякай праступнай думкі, калі йшла за поцягам сэрца. Для яе ўсё здавалася быць добрым і ласкавым, таму йшла не апіраючыся прывабам і ўпала.

Сумныя наступствы хаця-б толькі аднаго фальшывага кроку ёсьць неаблічальныя.Назаўсёды гіне непарочная чыстасьць цела. Нявіннасьць траціцца беспаваротна. Узьнёслае пачуцьцё аб захаванай чыстасьці — бясцэнным шчасьці нявіннае душы — крышыцца. Як некалі Адам і Ева, стоячы перад зачыненымі райскімі гаротамі, з болем кіравалі вочы на згубленае шчасьце, так неадна душа стаіць затопленая ў жалю перад раем нявіннасьці, адкуль яе выгнаў грэх — а той рай ужо перад ёю ніколі не адчыніцца. Нявінныя чыстыя радасьці, якія меліся раней, страчаны беспаваротна. Адчыняюцца вочы, каб убачыць страхоцьце нядолі, ў якое трапіла душа цераз адзін грэх. Аднак жаль і плач страчанага раю нявіннасьці ня верне.

Больш таго: згінуў натуральны сполах, які раней высьцерагаў перад грахом. Заламалася сіла супраціву ў падобных спакусах; пахіснулася пачуцьцё пашаны для жанчыны. А з успаміну ўпадку карыстае юрлівасьць, каб пабудзіць смагу да новага граху.

Спраўджваецца нарэшце тое, аб чым з горкім болем у сэрцы кажа Давід: «Грэх мой ёсьць заўсёды перам маімі вачыма». Гэткае правіны не забудзешся ніколі.

Як іней кветкі, марозіць яна ўсякую радасьць. Усьцяж стаіць перад вачыма душы, каб мучыць сваімі ўспамінамі. Да апошняй драбніцы аднаўляе ў памяці ўсё тое, чаго чалавек дапусьціўся і корміцца мукай, каторую спрычыняюць успаміны.

А што-ж бядак можа прыдбаць, для выраўнаньня ўсіх тых стратаў? Каплю кароткатрывалае змысловае роскашы і нічога больш. I за гэта трэба плаціць найбольш цэннымі скарбамі сэрца і душы!

Дагэтуль мы гаварылі перадусім аб выніках, да якіх прыводзіць маладога чалавека нясьпелае юнацкае каханьне. Падобна-ж помстуе яно і на дзяўчыне, таму ўсё вышэй сказанае адносіцца і да яе. Толькі наступствы для яе шмат больш адчувальныя. Неадзін жоўтадзюб і не дадумоўваецца, як вельмі няшчаснай робіць ён тую, каторую пераконвае аб сваёй да яе «любові». Каб гэта паказаць ясьней, мы зьвернем увагу на яе розныя свомасьці душы.

Накіраваньне дзяўчыны да будучага прызваньня і становішча ў жыцьці ёсьць зусім адменнае чымся ў маладога мужчыны. Хлапец думае, вышаўшы са школьнае лаўкі, вучыцца шавецтву, кравецтву, сьлясарству і пад. Абітурыент думае аб праве, аб мэдыцыне, ці палітэхніцы. У сучасных умовах нямала дзяўчат так-жа хапаецца за падобныя прафэсыі, але здаецца не шматлікія цэняць гэтыя прафэсыі, як сваё прызваньне. Бо ў гэткіх прафэсыях жанчыны ніколі ня чуюцца, як рыба ў вадзе. Вельмі трапна заўважвае адзін з навачасных псыхалёгаў, што «праўдзівая жанчына вешае свой дакторскі бірэт на вешаку, калі прыходзіцца калыхаць сваё дзіцятка». Бо прызваньне жанчыны ёсьць мацярынства і дзеля гэтага ўзбагаціў яе Бог сапраўды ў дзіўны спосаб.

Найбольшае багацьце дзяўчыны ў яе чыстым, пабожным, чулым, добрым, міласэрным, спагадным і ахвярным сэрцы. Яна мае дар нязвычайна хуткае ацэнкі таго, што выпадае раіць, што можна і што шляхотнае. Гэтэ кажа:

Хто хоча ня зблудзіць у тым, што выпадае,
У жанчын шляхотных рады хай пытае.

Бяз лішняга мудраваньня, жанчына нясьведама меціць у тое, што належыць. Яе найвялікшым шчасьцем ёсьць: у поўным забыцьці сябе самое аддацца поўнасьцю турботам аб іншых. Нярaз гэта дае яе вачом чароўную красу. Бывае, што яна тады зьзяе такою дабратою і салодкасьцю, такою зычлівасьцю і скромнасьцю, ахвярнасьцю і патульнасьцю, такою чыстасьцю і годнасьцю, што самі прыходзяць на думку словы паэты:

Ты падобна да кветкі прыгожай,
Гэтак ясна і міла, і чыста.
Твой пагляд у душы маёй можа
Абудзіць рой ідэй залацістых.
Так і хочацца з шчырай малітвай
Узьняць рукі да самага Бога,
I прасіць, каб цябе на век веку
Захаваў такой чыстай і гожай.

Неапісаным прывабам упрыгожвае Бог дзявоцтва. Гэта бачна ў далікатным подыху ненарушанай сьвятасьці; яно разьліта на ўсім, што дзявочае; у ім ёсьць пэўная няпрыступнасьць і сьведамая сябе паўстрыманасьць, у якой спалучаюцца адначасна аддалёнасьць са шчырай прыветлівасьцю навонкі. Гэта праяўляецца ў захаваньні поўным павагі, скромнасьці і прастаце поўнай шляхотнае годнасьці. Сустрэча з такою дзеваю ўзвышае чалавека і сэрца напаўняе чэсьцю да жаночае велічы.

Дык ці-ж ня ёсьць парступствам ламаць гэтак мілую краску-чалавека для сваё прыемнасьці,

каб пасьля яна сумна апусьціўшы голаву падсохла і змарнела?

Гэты далікатны подых дзявочасьці гіне цераз нясьпелае каханьне. Дзяўчына, катора зьнізілася да ролі забаўкі нейкага ўхажора-абібока тым самым выракаецца свае годнасьці, перастае шанаваць сябе і гэта хутка праяўляецца навонках. Яе паводзіны стаюцца лёгкадумнымі, гіне скромная паўстрыманасьць, яна пачынае страляць вачыма і на абліччы ў яе зьяўляецца зашмат свабоды. Чар нявіннасьці мінаецца.

Больш грозныя шкоды дзеюцца ў нутраным ладзе дзяўчыны. Зялёнае каханьне найчасьцей здараецца між 14 і 20 годам жыцьця. Тады якраз адбываецца нутранае разьвіцьцё органаў прызначаных да вялікіх мэтаў мацярынства. Гэты працэс, паводля аднадгоднай думкі лекараў вымагае нармальнага садзеяньня ўсяго арганізму. Дзеля гэтага вельмі і вельмі пажадана, каб гэты працэс адбываўся ў поўным супакою, бяз ніякіх забурэньняў.

Аднак узаемныя суадносіны між сэксуальнымі нэрвамі і адказваючаю ім уяваю муціць перадчасная любоў і парушае раўнаважнае дасьпяваньне.

У дзяўчыны пераважае чуцьцё, дзеля гэтага яе натура больш адчуваючая чымся ў хлапца, а тым самым ўсякае перажываньне ў яе адбываецца больш гвалтоўна і глыбей патрасае яе нутраным жыцьцём. Калі яе розум і ўвесь пачуцьцёвы лад знаходзяцца на шляху поўнага разьвіцьця, тады ўсякія нутраныя забурэньні ўплываюць на іх шкодна, а нават проста забойча. Дзяўчына лёгкадумна траціць праўдзівыя скарбы свайго сэрца і губляе тое, што мае найлепшае. Зьнікае далікатнасьць пачуцьцяў, што дагэтуль трывожліва бараніла ад усякае непрызваітасьці. І зразумела чаму, бо паступае супраць свайго сумленьня, супраць бацькаўскіх напамінаньняў і супраць прыказаньняў рэлігіі. Аўтарытэты блякнуць. Над усім гарою стае нахіл похаці. Новы сьвет змысловых думак авалодвае яе душою і выганяе пераможна ўсё вышэйшае.

Аднак тое, што гоніцца за фліртам ці каханьнем, ня ёсьць яе істотным «я» — гэта толькі гоны, якія дарваліся да ўлады і як тыран, жадаюць кіраваць асобай. Не адна дзяўчына, пакаштаваўшы любоўнае прыемнасьці, губляе зусім маральную сілу. Ня ўмее бяз іх абыйсьціся і дзеля таго пасьля аднаго каханьня йдзе другое, маральны ўзровень стаецца ўсьцяж ніжэйшым і ніжэйшым.

Нарэшце поўны грэх падгрызае яе істотную вартасьць. Малады мужчына лягчэй зможа працай у прафэсіі адвярнуць руйнуючыя вынікі свае віны, бо ў яго гэта было перадусім збочаньнем з дарогі змысловага гону. Але ў дзяўчыны гэта будзе збочаньнем з дарогі пачуцьцёвага гону, што вельмі балюча парушае ўсё яе нутранае жыцьцё.

Зялёная любоў маладога чалавека есьць заўсёды трагэдыяй фаўставай Грэтхэн. Душа дзяўчыны пасьля ўпадку хварэе, у выніку чаго вяне ўсё жыцьцё, а часам нават гіне. Мужчына, маўляў той матыль, што пырхае ад кветкі да кветкі, адлятае.

І вось як выглядае тое, ублытанае ў сільлё стварэньне: скаштавала крыху з чары роскашы і згубіла ўсю сваю вартасьць. Душа зьдзічэла, сэрца сталася пустым. Мінуў супакоў — зьнікла зразуменьне для вышэйшых рэчаў. Воля аслабла, узьнялі галаву нізкія нахілы і прабудзіліся злыя, небясьпечныя гоны. Рэлігійнае пачуцьцё атупела; дзесьці зьнiклі: маральны гарт і сьведамасьць адказнасьці за славу і ўчынкі.

Рэдка з трудом і толькі часткова ўдаецца паправіць гэтыя сумныя наступствы. І такія дзяўчаты маюць пасьля стацца маткамі!

А між тым — якое вялікае значэньне добрае маткі! Вялікі магунцкі біскуп Кэттэлер падчас аднаго свайго казаньня сказаў: «Найвялікшым дабрадзействам, якое Бог можа даць чалавеку ў прыродным парадку ёсьць бяз сумніву сапраўды хрысьціянская матка... Шчасьлівае тое дзіця, якое мае сапраўды хрысьціянскую матку, хаця-б яно выхоўвалася ў лахмоцьцях і ў лахмоцьцях зыходзіла-б у магілу. Як няхрысьціянская маці, хаця-б яна на словах і называлася хрысьціянскай, сваім падыходам заражае і труціць душу свайго дзіцяці, так наадварот пабожная маці ўлівае ў душу дзіцяці багаславенства. Калі добрая матка зьляжа ў магілу, а яе сын, кіданы бурамі жыцьця, гатоў пакінуць і веру і чэснасьць, і па нейкім часе знойдзецца на берагу пропасьці ля вечнай загубы — яшчэ і тады стоячая ў памяці шляхотная, чэсьцігодная постаць пабожнае маткі зможа яго проста цудоўнай сілай вырваць ізноў на шлях веры і дабраты».

Якіх толькі пахвалаў ня выказалі і не напісалі найвыдатнейшыя прамоўцы і паэты ў чэсьць добрай маці! Імя маткі мае ў вушох чалавека свой нявымойны гук. Зьвініць у ім глыбіня дабраты і сэрца, вялікадушнасьці і цярплівасьці, ахвяры і вырачэньня, чулай і моцнай любові. Добрая маці для дзіцяці ёсьць чымсьці адзіным і адначасова ўсім; ёй давярае свой сум, просіць яе рады ўва ўсіх клопатах, ёй на вуха расказвае аб крывулях свайго жыцьця. Часам нельга было чытаць без хваляваньня вестак з поля бою ў часе вайны, каторыя паведамлялі, як раненыя жаўнеры сярод страшэнных цярпеньняў і енкаў клікалі сваю маму. Можна заўважыць, што на характары чалавека, каторы ня знаў свае маткі, лажыцца пэўны цень суму. Маладосьць без цяпла матчынай любові ёсьць вясной бяз сонца.

Ці-ж тады ня ёсьць гэта драконскім праступствам псаваць і нішчыць у будучых матках усё тое, што іх прыспасабляе да вялікае мацярынскае

годнасьці? Забіваць у іх павагу жыцьця, багабаязьнь, далікатнасьць сэрца і пачуцьця і ў выніку ўсяго гэтага яны могуць стацца толькі кепскімі, або менш добрымі маткамі для сваіх дзяцей; ці-ж гэта ня злочын?

Ці-ж гэта будзе перасол, калі назавём таго чалавека імем разбойніка і бандыты, каторы дзеля хвілёвага патураньня сваёй юрлівасьці нахабна ўлазіць у сьвятыню дзявочага сэрца і, аграбіўшы ў яе найкаштаўнейшыя скарбы, ідзе ў сьвет з бястурботнай замашкай аб тым, што за сабою пакінуў? Сапраўды ён горшы за бандыту, бо ўкрадзеныя зямныя скарбы можна яшчэ зьвярнуць, але скарбаў адабраных дзяўчыне праз лёгкадумнае каханьне ўжо ёй ніхто і ніколі ня верне.

Але ня ўсе дзяўчаты прызначаны да сужэнства. Як горкім будзе для іх успамін, што калісь у маладосьці нехта лёгкадумна іграў з іх сэрцам над прыкрыцьцём любві, а мо нават і з ім страціла чэсьць і нявіннасьць! Сьлёзы і нараканьні, якія вырываюцца потым: «Каб мяне ня было ніколі...!», «Каб я жывой на сьвет ня прыйшла...!» — каб-жа яны здолелі направіць зробленую крыўду! Але рака не цячэ назад на наша жаданьне!

А ёсьць і іншыя — пакліканыя да вышэйшых рэчаў. Да іх калісьці Госпад зьвяртаўся: «Пачуй, дачка, і глянь ды прыхілі вуха тваё і забудзь ты народ свой і дом бацькі твайго. І калі Цар зажадае красы твае, сукланіся Яму, бо Ён Валадар і Бог твой». (Пс. 44, 11-12). Яны маюць быць закліканы ў карагод тых, каторыя Хрыста выбралі за валадара сваіх сэрцаў, каб усю сваю любоў прынесьці Яму ў ахвяры. Як тады асудзіць Сын Божы таго, хто прызначаную Яму душу давёў да бессаромнай палюбоўніцы, а можа нават абясчэсьціў і зьвёў на бездарожжа? Ці такі не павінен баяцца, што падобнае праступства сьцягне на яго жыцьцё страшэннае пракляцьце?

Хочацца быць перакананым, што ні адзін беларус юнак, каторы хоць крыху падумае, якую крыўды спрычыняе дзяўчыне, ачмураючы яе залётамі з лёгкай рукі, ніколі не дазволіць у адносінах да яе на падобнае злачынства. Нягодным чэснага чалавека ёсьць той, што з сэрца дзяўчаці робіць забаўку для забіцьця часу! Сама любоў да свае каханае маці павінна паўстрымаць маладога чалавека ад суадносінаў, праз якія дзяўчынабудучая маці магла-б стацца менш добрай, або і зусім кепскай маткай. Якім чынам выпраўдаецца той, хто праз лёгкадумства і жаданьне гульні спрычыніўся да таго, што іншыя ня мелі добрай, чэснай і чыстай маці? А яшчэ страшнейшай брыдоты дапусьціўся-б той, хто скрыўдзіў-бы выбраную і пакліканую ў службу Госпаду.

**Маладосьць — гэта час падрыхтаваньня, вясна жыцьця, час росквіту. Калі хочаш васеньняй парою зьбіраць плады, дык ня маеш права маёвымі днямі рваць квітнеючыя галінкі і з іх віць вянок для пустое гульні.**

Паводля кніжкі Шільгэна «Du und Sie»
апрацаваў **Васіль Друя**.

(Далей будзе).

# Рэлігійныя адносіны на Беларусі ў XII в.

Прызнаньне сьвятасьці прэпадобнае Еўфрасіні Полацкае ды іншых беларускіх сьвятых з XII в. так у праваслаўнай, як і ў каталіцкай Царкве мае для нас аграмаднае значэньне. Гэта зьяўляецца выявам духу аднаго з важных стагодзьдзяў нашае гісторыі.

Аднак гэты факт вымагае некаторых выясьненьняў, бо падзел Царкоў праз доўгія вякі вытварыў у народных масах пагляд, які атоесамлівае лацінскі абрад з каталіцтвам, а ўсходні — з праваслаўем. Дзеля гэтага прызнаньне беларускіх сьвятых усходняга абраду ў каталіцкай Царкве для некаторых можа быць незразумелым. Але затое стане ясным, калі прыпомнім, што сёньня ў каталіцкай Царкве акрамя лацінскага абраду ёсьць аж 14 розных усходніх абрадаў з некалькімі мільёнамі вернікаў. Трэба толькі перанесьціся думакаю ў часы да падзелу Царкоў, каб пераканацца, што і раней ня было іначай. Першымі славянскімі апосталамі агульна ўважаюцца сьвятыя браты Кірыла і Мяфод, якія хоць і прыйшлі з Візантыі і пашыралі хрысьціянства ўсходняга абраду, але залежалі ад Рыму і нават сьв. Мяфод атрымаў біскупскае сьвячаньне з рук папы Івана VIII. Вучні гэтых сьвятых братоў разыйшліся потым з Маравіі па ўсіх суседніх славянскіх краінах. Пад уплывам іхняе пропаведзі адбывалася афіцыяльнае прыняцьця хрысьціянства. Усходнія славяне, значыць і Беларусы прынялі хрысьціянства ў X-м веку — вось-жа перад падзелам Царкоў, які стаўся ў 1054 г. Як глязелі на гэты падзел беларускія князі? Яны ведалі добра ганарлівасьць візантыйскіх імпэратараў і гэтак-жа добра ведалі аб розных непаразуменьнях Візантыі з Рымам, таму і падзел Царкоў уважалі за хатняе непаразуменьне між візантыйскім і рымскім валадарамі, якое ўжо здаралася няраз раней.

Дзеля гэтага хрысьціянства на Беларусі пашыралася пасьля падзелу Царкоў, так як і раней. На багаслужэньнях і далей успаміналіся і папа рымскі і патрыярх візантыйскі. І далей распаўсюджваліся жыцьцяпісы рымскіх сьвятых; асабліва жыцьцё Аляксея чалавека Божага. У суседнім Ноўгарадзе залічаецца ў лік сьвятых Антоній

Рымлянін († 1147), які прышоў з Рыму ў 1106 г.

Агулам тагачасныя народныя масы ня бачылі ніякае істотнае розьніцы між усходнім і заходнім хрысьціянствам. Ноўгарадзкі сьвятар Кірык у сваіх «Запытаньнях» з XII в. найвыразьней кажа, што тамтэйшыя жанчыны носяць сваіх дзяцей да хросту бяз розьніцы ці да сваіх, ці да вараскіх (лацінскіх) сьвятароў. Няма сумніву, што ў нас ня было інакш. У нас выразна архірэяў называлі біскупамі, як гэта бачна з напісу на крыжы сьв. Еўфрасіні. Да таго, як сьведчыць расейскі дасьледнік жыціяў сьвятых Г. Федотов, пашану да сьвятых князёў Русь пераняла з захаду, «нават рымска-нямецкага Захаду, з ягоным культам сьвятых каралёў і фэадальных рыцараў. І гэта ёсьць адною з шматлікіх зьяваў, якія паказваюць на духовую блізіню старое Русі з Захадам». Варта падчыркнуць, што так кажа праваслаўны гісторык.

На доказ праўдзівасьці гэтага цьверджаньня можна прывесьці шмат фактаў.

Акрамя вышэй пералічаных можна ўспомніць такія агульна ведамыя факты, як: прыняцьце сьвята перанясеньня мошчаў сьв. Міколы (9-V), устаноўленага ў 1089 г. папаю Урбанам II; выбар у 1147 г. на мітрапаліта ўсяе Русі Кліма Смаляціча бяз згоды Візантыйскага Патрыярха і багаслаўленьне гэтага мітрапаліта мошчамі сьв. Клімэнта папы. Праф. Паўлоў у «Византійским Временнику» з 1879 г. падае цікавы апіс аднаго «Номоканона» з XII в., дзе пасьля 28 канона Халкідонскага Сабору славянскі перапішчык заўважвае, што гэты канон ня быў прызнаны блажэнным папаю Львом І і таму ня мае сілы, а далей даказвае пяршынства рымскага архірэя.

Калі гэтыя факты аб прыязных адносінах да рыма-каталіцызму ў XII в. супольныя для ўсіх усходніх славянаў, дык Беларусь з гэтага гледзішча асабліва вырозьнівалася. Летапісы ўсіх тагачасных полацкіх князёў называюць «заходнікамі». Калі да полацкага князя Уладзімера ў 1186 г. зьявіўся нямецкі місыянар Майнгард, каб атрымаць дазвол на місыйную працу між Ліваў, якія тады былі ў залежнасьці ад Полацку, дык ня толькі атрымаў гэты дазвол, але яшчэ быў шчодра ўзнагароджаны рознымі дарункамі, аб чым не забыўся ўспомніць у сваёй хроніцы Гэнрык Латыскі. Нажаль брэменскія купцы, якія йшлі сьледам за Майнгарадам, пачалі гнобіць наверненых Ліваў і выклікалі незадаваленьне і бунт, для здушаньня якога прыехалі крыжакі, а з імі прыехала няшчасьце на доўгія стагодзьдзі. Насьледкі гэтага няшчасьця ня выдыхаліся і да сёньняшняга дня. Аднак гэтыя пагубныя ўплывы, якія спрычыніліся да вытварэньня варожасьці да Захаду, запачатваваліся ў XIII в., а мы вяртаемся яшчэ да XII в., з якога маем найбольшы лік беларускіх сьвятых.

У тым часе прыязныя адносіны полацкіх князёў да каталіцкага Захаду былі чымсьці самазразумелым: нават у візантыйскім імпэратарскім двары тады часта пераважваў заходніцкі курс. Бальшыня візантыйскіх імпэратараў XII в. часта ўзнаўлялі перагаворы з Рымам аб паедналньні. Нашы князі аб гэтым добра ведалі, бо нейкі час самі былі ў Візантыі. З гэтага гледзішча асабліва вызначаўся Мануіл Комнэн (1143-1180), які веў ажыўленыя перагаворы з папаю Аляксандрам III аб паеднаны. Асабліва ў гадох 1166/67 (якраз падчас паломніцтва сьв. Еўфрасіні ў Ерузалім) было напісана шмат лістоў у справе ажыцьцяўленьня паеднаньня Царкоў, якое мела стацца ў 1167 г. Пры гэтай нагодзе папа меў прызнаць Мануілу тытул рымскага імпэратара і каранаваць яго. Тагачасны візантыйскі патрыярх Лука Хрызоверг (1156-1169) так-жа ня быў супраць пагадненьня. Але розныя праекты супольных крыжовых паходаў і супольных войнаў крыжавалі гэтую справу і адкладалі яе з дня на дзень, а тым самым і абцяжвалі яе да немагчымасьці ажыцьцяўленьня. Аднак самыя стараньні мелі жывое рэха і на Беларусі праз перапіску сьв. Еўфрасіні з імпэратарам і патрыярхам.

Ці можа пасьля гэтага быць дзіўным, што ў гэткіх абставінах у жыцьцяпісах беларускіх сьвятых з XII в. няма найменшае азнакі няпрыхільнасьці да Рыму? Наадварот ёсьць нядвузначныя сьляды прыхільнасьці і пашаны.

Аб настроях і думках сьв. Еўфрасіні ўжо гаварылася ня раз — гэтыя настроі мусілі быць такія, якія бачым у полацкіх князёў, бо яна была іхняю дарадніцаю. А настроі гэтыя былі такія, што падыктавалі летапісцам назваць полацкіх князёў заходнікамі.

Аб думках сьв. Кірылы Тураўскага сьведчаць ягоныя казаньні, між якімі ёсьць адна аб сьв. Клімэнце папе рымскім, вельмі прыхільная да каталіцызму. Такім-жа мусіў быць і сьв. Лаўрын — жыцьцяпісец сьв. Кірыла.

Сьв. Аўрам Смаленскі, памёр на пачатку XIII в., але ён вырас з атмасфэры XII в. і таму яго можна залічыць да супольнае групы. Ён штодзень правіў Службу Божую паводля заходняга звычаю і вельмі вызначаўся культам да сьвятое Эўхарыстыі. Сьв. Ігнат, субяседнік сьв. Аўрама, напэўна йшоў сьлядамі свайго вялікага субяседніка.

Агулам варта зазначыць, што на абшары Беларусі ў XII в. ня было ніякае літаратуры варожае да заходняга хрысьціянства, відаць дзеля таго, што ня было да гэтага адпаведнага грунту. Гэтая адсутнасьць палемічнае літаратуры ў тым часе, калі ў суседняй Украіне грэцкія мітрапаліты выступалі ўжо некалькі разоў супраць «латынян», ня ёсьць прыпадкавым зьявішчам. Не памылімся,

калі скажам, што рэлігійны супакой ёсьць істотнаю беларускою азнакаю духу гэтае эпохі. Варта толькі прыпомніць зацемку з жыцьцяпісу сьв. Еўфрасіні, як яна не шкадвала стараньняў, каб гадзіць пасвараных князёў, баяраў і купцоў, каб у гэтай годчай дзейнасьці беларускае сьвятое ўбачыць выяў яе нутраната настрою. Гэткім-жа годчым духам бы прасякнуты і сьв. Кіралы Тураўскі — верны вучань сьв. Івана Залатавустага.

У гэтым супакою Беларуская Царква перажывала адну з найпрыгажэйшых старонак свае гісторыі і таму гэты век заслугоўвае на асаблівую ўвагу ўсіх дасьледнікаў беларускага рэлігійнага жыцьця.

**а. Л. Гарошка**

# Першы Беларускі Экзарх

Сёлета ў сьнежні месяцы мінаюць сёмыя ўгодкі ад дня трагічнае сьмерці першага экзарха Беларускае Грэка-каталіцкае (уніяцкае) Царквы а. Антона Неманцэвіча.

Нядоўгі быў час ягонае ахвярнае дзейнасьці на Беларусі, але надзвычайна важны для аднаўленьня беларускага рэлігійнага жыцьця.

Паняволенае палажэньне нашае бацькаўшчыны і тое нячуванае рэлігійнае прыгнобленьне, якое там да сёньня пануе, не дазваляюць сабраць поўнасьцю матэрыялы аб жыцьці і здейнасьці першага выдатнага дзеяча адноўленае гр.-катаілцкае беларускае Царквы. У сумныя угодкі ягонае трагічнае сьмерці, варта падаць да агульнага ведама, хоць тыя важнейшыя мамэнты з ягонага жыцьця, якія да гэтага часу ўдалося сабраць.

Радзіўся а. Антон Неманцэвіч ў 8-га лютага 1893 г. у беларускай сялянскай сям'і на Сакольшчыне. Духоўную асьвету атрымаў у Пецярбургскай Каталіцкай Духоўнай Акадэміі, і там-жа стаўся адным з першых сяброў Беларускага Гуртка, які загранізаваў праф. Браніслаў Эпімах-Шыпілла. Па сканчэньні Акадэміі ў 1915 г. атрымоўвае сьвятарскае сьвячаньне і некаторы час працаваў пры касьцеле Пятра і Паула ў Маскве.

У часе рэвалюцыйных замяшаньняў мусіў зьмяняць мейсца працы, але большаю часткаю астаецца ў Маскве і там-жа аднойчы выступаў на дыскусыйным вечары ладжаным тагачасным камісарам асьветы Луначарскім і так удала разьбіў усе закіды камуністаў, што ўся саля доўгі час гучнымі воплескамі суправаджала яго прамову. Аднак праз гэта ён трапіў пад надзор ГПУ. Калі уціхамірылася рэвалюцыя, яшчэ нейкі час а. Неманцэвіч быў у Маскве, але хутка быў выселены у Зах. Беларусь у форме вымены вязьняў з Польшчаю. Але тут ён доўга не затрымоўваўся і паехаў на далейшыя студыі ў Рым. Там пры Усходнім Інстытуце спэцыялізуецца ў галіне ўсходняе багасловіі і здабывае два дактараты з багасловіі і права. З Рыму ён вяртаецца зноў у Зах. Беларусь і ўключаецца ў унійны рух, які ўжо ад некалькі год разьвіваўся на Беларусі. Дня 13-IX-1929 г. ён уступае ў езуіцкі навіцыят у Альбэртыне і прымае усходні абрад.

Па адбыцьці навіцыяту а. Антон працуе нейкі час, як парах у Альбэртыне і адначасна зьяўляецца асноўнікам і рэдактарам беларускага рэлігійнага часопісу «Да злучэньня», які выходзіў ад 1932 г. Не пераставаў быць рэдактарам, калі ў ліпені 1933 г. а. Антона пераносяць у Сынкавічы. Потым у верасьні 1934 г. бачым а. Антона ў ліку прафэсароў Папскае Сэмінарыі ў Дубне.

Умовы унійнае працы на Беларусі цяжэлі з дня на дзень. Часопіс «Да злучэньня» закрываецца, будову новых уніяцкіх сьвятыняў забараняецца, новыя парахвіі ня могуць ніяк зарганізавацца. Асабліва на Палесьсі лютаваў супраць уніі палескі ваявода Костэк-Бэрнацкі, бо толькі уніяцкія сьвятары супрацівіліся ягоным палянізацыйным плянам. Дзеля гэтага ў сваёй лютасьці ў 1938 г. гэты ваявода загадаў запячатаць уніяцкую сьвятыню ў вёсцы Угрынічы гм. Любяшова разам з Найсьвяцейшай Эўхарыстыяй. Тады нават некаторыя польскія каталіцкія часопісы не маглі паўстрымацца, каб не сказаць, што «ў Угрынічах Хрыстос знайшоўся ў арыштце» (Гл. «Орыенс» 1939 г. за ліпень-жнівень).

У гэткіх цяжкіх умовах а. Неманцэвіч арганізуе новы беларускі часопіс «Злучэньне», але выданьне пераносіць ў Варшаву і стараецца згуртаваць вакол гэтага часопісу ўсё сьведамае беларускае каталіцкае духавенства, каб магчы супольнымі сіламі супрацьставіцца польскаму наступу. За гэта прыходзіцца яму мець не адну няпрыемнасьць з польскімі ўладамі.

Выбух вайны ў 1939 г. і заняцьце Зах. Беларусі бальшавікамі значна абцяжвае ўмовы рэлігійнае працы, аднак і цяпер а. Антон не бязьдзейнічае. У гэтым часе львоўскі украінскі мітрапаліт Андрэй Шэптыцкі выкарыстаў свае ўпаважненьні, якія меў яшчэ ад Сьвяцейшага Айца Бэнэдыкта XV, і тайна стварае рад экзархатаў гр.-каталіцкае Царквы, між якімі так-жа і Экзархат Беларусі. У 1940 г. экзархам назначаецца а. Антон Неманцэвіч.

Спачатку праца Экзархату вядзецца зусім тайна, толькі у невялічкім кругу даверaных асобаў. Сам а. Экзарх і кожны з ягоных супрацоўнікаў кожнае хвіліны мусяць быць гатовыя на ўсё. У гэткіх небясьпечных умовах вызначаюцца два намесьнікі экзарха і 20-га красавіка 1940 г. яны ўтрох правяць саборную Службу Божую ў намераньні Беларускага Народу і Экзархату ды

адбываюць першую супольную нараду, на якой вызначаюць плян працы.

Адносна усіх важнейшых справаў і прынцыповых пытаньняў усе экзархі адбывалі супольныя тайныя нарады-зьезды. Гэткіх зьездаў адбылося тры. Апошні зьезд быў перад самым наступам немцаў на бальшавікоў. На гэты зьезьдзе, які адбыўся ў Львове ў днёх 10-12-га чэрвеня 1941 г. а. Неманцэвіч быў разам з сваім намесьнікам.

Акупацыя Беларусі немцамі спачатку мала зьмяніла ўмовы працы экзархату, але ўжо на пачатку 1942 г. а. Неманцэвіч пастанаўляе выйсьці з укрыцьця і стараецца афіцыяльнага дазволу ад акупацыйных нямецкіх уладаў для выконваньня сваіх рэлігійных абавязкаў экзарха. Пасьля пару месяцаў урадовае валакіты гэткі дазвол прыходзіць у сакавіку 1942 г. Праца пачынае ажываць, але адначасна пачынаюць множыцца перашкоды з усіх бакоў.

Да гэтага часу уніяцкія парахвіі ў Зах. Беларусі былі ў юрысдыкцыі рыма-каталіцкіх біскупаў. Экзарх робіць захады пераняць іх ў свае рукі. Першы перадаў экзарху сваю юрысдыкцыю віленскі мітр. Р. Ялбжыкоўскі. У справе юрысдыкцыі Пінскае дыецэзыі трэба было езьдзіць у Львоў, куды быў пераехаў біск. К. Букраба; сталася гэта ў ліпені. Больш складанай была справа ў Падляскай дыецэзыі, якая пасьля сьмерці біск. Пшэзьдзецкага ў 1939 г. ня мела ардынарыя.

На парадку дня ў Экзархаце стаялі важныя і неадкладныя справы: арганізацыя духоўнае кансісторыі, арганізацыя духоўнае сэмінарыі, друк багаслоўскіх кнігаў, арганізацыя прэсы і інш. Акрамя вонкавых цяжкасьцяў да выкананьня ўсіх гэтых заданьняў не ставала сьвятароў, бо чужынцы, якія працавалі раней на Беларусі пры зьмененых абставінах амаль усе адыйшлі.

На Вялікдзень 5-га красавіка 1942 г. а. экзарх выдаў першае сваё Пасланьне да Беларускага Народу. Было яно ўсяго на адну старонку машыновага друку, але зьмест быў глыбока рэлігійны і шчыра патрыятычны.

Розгалас аб утварэньні Экзархату пачынае расходзіцца штораз шырэй. Калі 2-га травеня 1942 г. была ўтворана Рада Экзархату, а наступнага дня Духоўны Суд, дык аб гэтых фактах ужо паявіліся паведамленьні ў тагачаснай беларускай прэсе: «Баранавіцкай газэце», «Беларускай газэце», «Раніцы» і ін.

Пасьля гэтага вельмі заварушыліся тайныя і яўныя маскоўскія агентуры. На экзарха пасыпаліся даносы ў нямецкія паліцыйныя ўстановы. З некаторых даносаў, на якіх фігуравалі подпісы праваслаўных япіскапаў, прабываючых тады ў Жыровічах, беларусы каталікі змаглі зрабіць копіі і пераслаць іх на перахаваньне. Асабліва шмат інтрыгаваў супраць экзарха рабіў сябра «Брацтва Расейскае Праўды» і «Трудавога Саюзу» і адначасна урадавец гэстапо Ушпік, які потым быў уцёк да бальшавікоў, але былі весткі, што тыя яго, як гэстапоўца, мелі павесіць.

Вынікам гэтых даносаў было тое, што за кожным крокам экзарха пачалі пільна сачыць з усіх бакоў.

Не зважаючы аднак на ўсе даносы і заўсёдную небясьпеку а. Неманцэвіч ня зьменшваў свае дзейнасьці. Дзеля правядзеньне некаторых мерапрыемстваў ён мусіў мець апрабату Рыму, а кантакту з Рымам ня было ніякага. Каб гэты кантакт навязаць, экзарх стараецца атрымаць пропуск на падарожжа ў Львоў, каб пабачыцца з мітр Шэптыцкім. Нямецкія ўлады пасьля некаторага пярэчаньня даюць пропуск, але з умоваю, што гэтае падарожжа мусіць адбыцца нямецкім аўтам і з нямецкім шофэрам. Прышлося згадзіцца на гэта. Падарожжа адбылося ў ліпені 1942 г. Як толькі экзарх вярнуўся з падарожжа, нямецкае гэстапо пастанавіла зьлікідаваць і экзарха, і Экзархат. Фармальнаю прычынаю да гэтага паслужылі новыя інтрыгі і даносы. На пачатку жніўеня аднае ночы каля Альбэртынскага манастыра спынілася аўта з гэстапоўцамі. Яны ўварваліся ў манастыр і «папрасілі» а. Неманцэвіча паехаць з імі ў Слонім. Адтуль яго адразу перасылаюць у Менск «для выясненьне некаторых важных справаў». Праз пару тыдняў у Менску гіне сьлед па а. Неманцэвічу.

Рабілася шмат стараньняў, каб яго вызваліць. Нават на пачатку верасьня 1942 г. адзін нямецкі палкоўнік з Галоўнае Ваеннае Кватэры абяцаў, што а. Неманцэвіча хутка выпусьцяць, але абяцанка так і асталася пустою.

Відаць, што нямецкае гэстапа наважылася бяз ніякіх адкладаньняў зьлікідаваць Экзархат, бо калі ўканцы верасьня адзін з намесьнікаў экзарха быў зьяіўся ў Альбэртыне, дык яму было загадана зараз-жа выязджаць адтуль, калі ня хоча мець дачыненьняў з паліцыяю.

У 1944 г. справа а. Неманцэвіча была перадана ў Бэрліне біскупу Гэнрыку Вінкэну, які быў тады пасрэднікам між нямецкім каталіцкім япіскапатам і ўрадам. На некалькіразовыя запытаньні біск. Вінкэну урадова было павядомлена, што а. Неманцэвіч памёр на тыф у сьнежні 1942 г. у адным з концлягэраў. Дакладнага мейсца сьмерці не азначана. Аднак ведама, што а. Неманцэвіч хварэў на тыф у маладосьці, таму больш праўдападобна, што ён проста быў закатаваны.

Паводля Божага пляну для выкананьня вялікіх учынкаў патрэбна вялікая ахвярнасьць. Толькі на вялікай ахвяры растуць непахісныя векапомныя творы. Для аднаўленьня старое Беларускае Царквы а. Неманцэвіч дадаў сваю скромную, але шчырую ахвяру да крыжовае ахвяры Хрыста і дасьць Бог, прыйдзе час, калі на Беларусі закрасуе гэтая ахвяра прыгожымі кветкамі і пладамі.

**Радны.**

# Сучасныя магі

Дзе цяпер ня знойдзеш на сьвеце сваіх суродзічаў?! Часам у найдалейшых закутках сьвету сланяюцца яны, паадзіночна каратаючы сваё бежанскае жыцьцё.

Андрэй Доўгі пасьля даўжэразнага і неімаверна цяжкага шляху праз тундры Сібіру, пяскі Арабіі трапіў аж пад самы экватар у Танганайцы. Быў нейкі час у лягэры, а калі лягэр паразвозілі, ён неяк астаўся ў Афрыцы, зашыўшыся ў мястэчка Карэма над самым возерам Танганайка. Гарыстая цеплая і прыгожая гэтая краіна Танганіка, але ніколі сваю Наваградчыну не прамяняў-бы на яе. Ужо другі год тоўкся ён па вуліцах Карэмы і сумаваў, што адбіўся ад свае групы, ня чуў свае мовы, свае песьні... Сяброў ён за гэты час знайшоў і тут, але калі набліжаліся Каляды, дык чуўся вельмі адзінокім і нейкім чужым чужаніцію.

Тыдні два перад Калядамі Андрэй быў паехаў з сваім сябрам на некалькі дзён у Кігому, дзе была найбліжэйшая чыгуначная станцыя. Дарога амаль увесь час ішла берагам возера, кіруючыся на поўнач. Неспадзевана на лузе ля маленькае рэчкі Андрэй убачыў бусла. Аж крыкнуў ад неспадзеванкі Андрэй.

— Бусел! Адкуль ты, браце, ўзяўся тут?!

— Чаго ты так крычыш? — дзівіўся сябра.

— Вонь, бачыш, бусел! У нас на Беларусі іх летам поўна, а ў нас нават на гумне было буслава гняздо.

— А ў нас летам іх зусім няма. Гэта толькі на зіму прылятаюць яны сюды ў вырай.

— Дык можа гэта якраз бусел з нашае вёскі? Ах, каб ты мог гаварыць даўганосы і цыбаты зямляк, можа-б ты мог мне сказаць вельмі многа аб тым, што дома робіцца?

— У нас былі даўней такія чараўнікі, што разумелі мову птушак.

— А цяпер ужо такіх няма? — пытаўся Андрэй.

— Нешта ня чуваць.

— Як шкада! Можа-б перад Калядамі якраз даведаўся аб якой важнай навіне з дому.

— Слухай, Андрэй! Чаму ты так сумуеш па гэтых сваіх Калядах? Хіба-ж тут нельга адсьвяткаваць так сама, як у той вашай далёкай Беларусі?

— Мусіць не.

— Дзіўныя вы людзі! Вашы буслы, як прылятаюць сюды, дык не сьпяваюць і гнёздаў ня ўюць, бусьлянят ня выводзяць; толькі сумна валэнсаюцца па макрышчаш, і ты гэткі самы.

— Што ты кажаш? Няўжо праўды тут буслы ніколі гнёздаў ня ўюць?

— Так, ніколі ня ўюць.

— Бачыш, і неразумная жывёла па бацькаўшчыне сумуе, дык як-жа ты хочаш, каб чалавек ня сумаваў? У нас, браце, Каляды, гэта табе ні ў казцы сказаць, ні пяром апісаць. Калі зьбяруцца ўсе за сталом спажываць Сьвятую Вячэру, на покуці куця стаіць, а за сталом усе сямейнікі сабраныя, настрой сьвяточны, урачысты. На двары мароз трашчыць, а ў сэрцы цяпло і радасьць неапісаная. У гэты вечар кожны хоча быць добрым супраць усіх, нават мароз запрашаюць . куцю есьці...

— Няўжо, каб было льга, дык-бы ты паехаў дамоў на куцю.

— На крыльлях паляцеў-бы.

— Я цяпер разуме, чаму магі з Усходу йшлі так далёка, каб пакланіцца Хрысту, хоць Ён ляжаў у бедных ясьлях.

— Ну вось сам бачыш, а яшчэ пытаешся.

— Ведаеш. Андрэй, што? Калі ты такі дзівак, дык што табе шкодзіць стацца яшчэ большым?

— Ты ня сьмейся з мяне.

— Ніякага сьмеху, зусім паважна. Што табе перашкаджае тут на Каляды стацца добрым?

— Не разумею, што ты хочаш сказаць?

— Я думаю зрабіць такую штуку: ты беларус з тае далёкае краіны, якое я і ня ведаю, я нэгр і Сім араб, што жыве ў суседстве каля мяне, — давай у Сьвяты Вечар, як тыя тры магі з Усходу, пойдзем у якую бедную сям'ю, дзе ёсьць маленькае дзіця, занясём туды дарункі і справім там, як ты кажаш, Куцю. Згода?

—Мне здаецца, што гэта будзе выглядаць на блазэнства ў Сьвяты Вечар.

— Якое табе блазэнства? Хоць ты і з Эўропы, адкуль да нас прыходзяць місыянары, але відаць ня знаеш Эвангельля. Вось-жа ў Эвангельлі напісана, што Хрыстос сказаў: «Што зробіце аднаму з гэтых меншых братоў Маіх — Мне зробіце». Усходнія магі хадзілі далёка, каб ушанаваць і абдараваць Хрыста ў Бэтлеемскіх ясьлях, а мы пойдзем у Карэме да якіх небудзь бедных Ягоных братоў... Купім пры нагодзе дарункаў у Кігоме...

— Праўду кажаш...

---

На сутанку ў Сьвяты Вечар тры постаці з невялікімі клункамі ў руках ішлі на ўскрай Карэмы. Яны дайшлі да нейкае хаты — ня хаты, будкі — ня будкі, але гэта было людзкое жыльлё; у сярэдзіне чувыць быў плач дзіцяці і гоман большае колькасьці людзей. Пастукаліся ў дзьверы. Замест адказу дзьверы павалі адчыніліся і высунулася жаночая галава і пачуўся голас:

— Хто тут?

— Людзі з далёкага краю, — казаў нэгр, —

просяцца ў вашае міласьці, пусьціць нас на хвіліну ў хату.

— Увайдзеце, калі ласка, — адказала жанчына.

— Добры вечар, добрым людзям у гэтай хаце!

— Добры вечар! — адказалі ціха хатнія, — і ўтаропіліся ў дзіўных госьцяў. У невялікай хаце зрабілася ціха; гаспадар, гаспадыня і васьмёра іхных дзяцей усе глядзелі на госьцяў пытлівым позіркам.

— Вы здаецца хрысьціяне? — пытаўся нэгр у гаспадара.

— Так. Каталікі.

— Дык вы добра ведаеце, што сёньня вялікае сьвята?

— О, так! Вечар перад Раством Хрыста.

— Не вазьмеце нам за кепскае, што мы спытаемся ў вас: ці прынялі-б вы сёньня сьв. Язэпа, калі-б ён зайшоў да вас, як калісьці ў Бэтлеем?

— Чаму-ж не, — казаў гаспадар; і на абліччы ў яго можна было вычытаць пытаньне: чаго гэтыя людзі хочуць?

— О, каб да нас прыйшла Багародзіца, — умяшалася ў гутарку гаспадыня, — дык-бы вось і гатовую калыску мела. Пры гэтых словах яна выняла з калыскі свайго малога і ўзяал яго на рукі.

— Ня дзівуйцеся, што мы так пытаемся, — казаў далей нэгр, — бо сёньня ёсьць цэлыя краіны, адкуль выганяюць Хрыста і гнобяць тых, што бароняць Яго сьвятую Праўду. У іншых краінах супраць самога Хрыста ня кажуць нічога, але вось сотні тысяч людзей з імем дыпістаў сланяюцца па сьвеце і толькі тых з іх прыймаюць, з каго льга яшчэ сок выпіснуць...

— Мы бедныя людзі, — акзаў гаспадар, — аб дыпістах мы ня чулі, але калі-б сьв. Язэп пераапрануўся нават за гэтых, як вы кажаце дыпістаў, ці за якіх іншых бедакоў, дык-бы я ўсёроўна прыняў яго чым хата багата.

— Ну, вось і добра, — гаварыў араб да сваіх спадарожнікаў, — мы знайшлі чалавека, які ахвотна годзіцца прыняць Хрыста, як-бы Ён ня быў апранены, дык можам тут зложыць свае дарункі, якія зложылі-б Хрысту.

Усе трох разьвязалі свае хатылі і павыкладалі на стол цестачкі, яблыкі, цукеркі, вопратку... Андрэй дастаў прыгожую белую сарочку і, нічога ня кажучы, палажыў яе на рамя гаспадыні, якая стаяла ля стала, трымаючы на руках малое. Араб стаў частаваць дзяцей ласункамі.

У хаце ўчуніўся рух, сьмех, весялосьць. Дзеці асьмеліліся і пачалі падскакваць. Гаспадар спачатку ня ведаў, што рабіць, а потым нешта шапнуў на вуха жонцы, тая перадала малога старэйшай дачцы, а сама некуды хутка выйшла.

— Ня ведаю, як называць вас — казаў гаспадар да госьцяў, — але калі вы мне зрабілі такую неспадзеванку і такую вялікую радасьць для майго дому, дык не адмоўце мне чэсьці, засесьці за мой стол.

Андрэй, седзячы ля стала і слухаючы, як лепяталі да яго дзеці незразумелаю моваю і сьмяяліся шчырым дзіцячым сьмехам, уяўляў, як мусілі быць шчасьлівыя бэтлеемскія пастушкі, чуючы ангельскі сьпеў. Такое радаснае Куці ён не перажываў нават удома.

**Анатоль Жменя.**

# Эміграцыя за усякую цану

Агульна ведама, якія вялікія цяжкасьці ставяцца сёньняшнім дыпістам у справе эміграцыі. Гэтыя цяжкасьці зьбольшваюць у людзей і так вялікае і зусім апраўданае жаданьне эміграцыі ў краі, дзе можна было-б наладзіць сякое такое нармальнае людзкое жыцьцё — перастаць быцьць нейкім дыпістам, а стацца зноў чалавекам. Вялікая частка з іх, прайшоўшы доўгія мытарствы, ужо змагла выехаць, але шмат яшчэ ўжо чацьвёрты год чакаюць на выезд і цярпеньне нарэшце вычэрпваецца. Нічога тады дзіўнага, што ў гэткім настроі, людзі хапаюцца за ўсякую магчымасьць, каб толькі ажыцьцявіць свае жаданьні. Падаём тут у скарочаньні, як вымоўны дакумант часу, ліст аднаго з беларусаў, які сёлета ў верасьні стараўся выехаць з Швэцыі ў Канаду.

---

«Калі я даведаўся, што карабель «Вікторы» зьбіраецца ехаць з Швэцыі ў Канаду, пастараўся закупіць білет за 1600 шв. кар. і нарыхтаваўся да выезду. Але адразу падарожжа нешта ня клеілася. Прышлося чакаць на выезд з порту Готэборг больш месяца часу. Умовы чаканьня былі вельмі дрэнныя, бо гэты карабель нармальна можа ўзяць толькі 50 асобаў, а ўсіх уцекачоў назьбіралася больш 450 чалавек ад 11 нацыяў: 4 беларусаў, каля 370 эстонцаў, 89 палякаў, 17 фінаў, 5 летувісаў, 4 латышоў, 2 швэдкі, жыд, расеяц, харват і мадзяр. Можна сабе ўявіць, якая там была цесната. На дне было заўсёды шмат вады, так, што нашы рэчы пагнілі. Ужо ў Готэборгу шмат людзей пачало хварэць. Таму, што гэты карабель стаўся скандалам сучасных грамадзкіх адносінаў, дык швэдзкія ўлады не хацелі яго выпусьціць з порту і паставілі паліцыю, каб пільнавала ўцекачоў і карабель, які не надаецца да акіянскіх плаваньняў. Першая бура на моры магла-б затапіць

яго. Карабель належаў да польска-эстонскага акцыйнага таварыства «Калев».

Ноччу з 24 н 25 верасьня, калі ўсе спакойна спалі, неспадзевана загучэлі ўсе маторы і карабель паціху пачаў уцякаць з порту. Паліцыя, заўважыўшы ўцёкі, падняла алярм, але мы ўжо ехалі поўным парам.

Па нейкай гадзіне язды раптам ўсё з трэскам закалыхалася. Людзі паляцелі з нараў. Пачалася паніка. Карабель стаў, як укопаны. Ён урэзаўся носам у скалу якогась маленькага абтоку. У носе зрабілася трэшчына. Матросы бегалі ўзад і ўпярод па пострапе; яны запалілі сьвет і спусьцілі лодкі. Выявілася, што толькі у носе трэснулі вадазборнікі з салодкаю вадою, па-за тым карабель быў цэлы. Далі маторы ўзад і ўбок — карабель ссунуўся назад у мора і мы паехалі далей з распоратым носам.

Да гэтага часу капітан вёў карабель неасьветленым шляхам, каб унікнуць пагоні, цяпер ён пачаў дабірацца да шляху. Да нас пад'ехала шведская патрульная лодка з загадам вярнуцца назад у Готэборг, але гэтага загаду ніхто ня слухаў. Мы плылі на захад; акружылі Ютляндзкі паўабток і на зьмярканьні ўжо былі ў Паўночным моры. Пагода, дзякаваць Богу, была добрая, і нас ня вельмі гойдала. Але ля каналу Ля Манш густы туман пакрыў увесь кругазор. Арыентацыйныя прылады на караблі былі нявырэгуляваныя, бо мы ўцяклі неспадзявана і вось мы пачалі блудзіць цэлых паўтара дня, аж пакуль не напаткалі карабель-лятарню; тыя нас навялі на дарогу. Туман увесь час не ападаў, так што праязджаючы каля Дувра ледва яго можна было заўважыць. На пяты дзень падарожжа ўехалі ў Атлянтычны акіян.

Выязджаючы з Готэбогу на караблі харчоў было ўсяго на якіх 3 дні, а салодкая вада выцякла падчас катастрофы, таму нам пачалі даваць паўгалодныя порцыі. Да таго схадзіўся вецер і карабель так страшна пачаў гойдацца, што ўсе пахварэлі на марскую хваробу. Каб, нядай Бог, падэьмула бура, дык акулы мелі-б з нас добрую пажыву. Але на шчасьце ў пятніцу рана паказаўся скалісты бераг Ірляндыі і апаўдні мы ўехалі ў порт Корк.

Усе былі так змучаныя і галодныя, што кожны стараўся перш-на-перш купіць нейкіх харчоў і пад'есьці. Наступнага дня мы пераехалі з порту ў горад Корк. Там ужо ірляндцы пачалі прыносіць нам харцы і тысячы людзей глядзелі на нас, як на дзіва. Газэтныя рэпартэры так-жа масава кружыліся каля нас, аглядаючы «карабель-прывід». Пару дзён мы жылі на караблі, а 4-X нас перавязьлі ў лягэр Рокграв 7 км. ад Корк, дзе былі раней ваенныя казармы. Мужчын разьмясьцілі ў вялікай гімнастычнай залі, а жанчын у нейкім старым доме. У гімнастычнай залі ложак ня было, падлога цымэнтовая — там палажылі на падлозе матэрацы і мы на іх сьпімо. Столі ў гэтай залі няма, а дах азбэставы, так што вецер ходзіць па залі, як яму падабаецца і мы ўсе папрастуджваліся.

Карабель тымчасам адрамантавалі, але ірляндзкія ўлады ня выпушчаюць яго, бо ён не надаецца да плаваньня праз акіян.

Харчаваньне ў лягэры вельмі слабое і гэта вельмі адбіваецца на здароўі, асабліва дзяцяей — тыя ўжо некаторыя по другім разу ляжаць у шпіталю.

Ясна, што мы выехалі бяз візаў і вось ужо паўтара месяца знайходзімся ў Ірляндыі. Ірляндзкія ўлады стараюцца нам вырабіць візы ў Канаду, але справа йдзе паволі. Была ўжо ў нас канадзкая камісыя, якая дасьледавала кожнага з мэдыцынскага і з палітычнага боку. Вынікі гэтага дасьледаваньня будуць ведамыя за які тыдзень. Кажуць, што ня ўсім выдадуць візы ў Канаду.

Цяпер няма ведама, як будзе з аплатаю за дарогу, бо мы паплацілі падарожжа на караблі «Вікторы», але на ім ехаць нельга. Хто за нас заплаціць далейшую дарогу? Ня знаем.

Умовы жыцьця ў лягэры даволі дрэнныя, з гэтага ўсяго людзі пачынаюць сварыцца; мы жывём, дзякаваць Богу, згодна, але няпрыемна слухаць лаянкі іншых. Я нядаўна дастаў працу і вельмі цешуся, што магу крыху зарабіць на пражыцьцё і выйсьці з лягэру, каб ня чуць больш сваркі.

Маю ў Богу надзею, што ўканцы ўсё развяжацца памысна і хоць чакаем доўга і шмат цярпімо, але такі дабяромся да Канады...»

**Ал. Ас.**

# НА РЭЛІГІЙНАЙ НІВЕ

## АМНІСТЫІ Ў СЬВЯТЫМ ГОДЗЕ

Каб засьведчыць аб сапраўдным разуменьні значэньня Сьвятога Году ўрады некаторых дзяржаваў рыхтуюць шырокія амністыі на 1950 г. Ужо такія дэкрэты аб амністыі выдалі міністрэрствы справядлівасьці ў Бразыліі, Гішпаніі, Ірляндыі і Мальты.

## ПРАВАСЛАЎНЫЯ І МАГАМЭТАНСКІЯ ПАЛОМНІЦТВЫ Ў РЫМ

Цэнтральны Камітэт Сьвятога Году паведамляе, што сёлета ў лістападзе ўжо было зглошана больш як паўтара мільёна паломнікаў у Рым, між імі ёсьць зглошаная праваслаўная група з Грэцыі і магамэтанская з Эгіпту.

Усіх паломнікаў у Рым на час Сьвятога Году прадбачыцца да шасьці мільёнаў.

### РЭЛІГІЙНАЕ ПЫТАНЬНЕ Ў ШВЭЦЫІ

У Швэцыі дзяржаўным веравызнаньнем лічыцца пратэстантызм. Паводля дагэтуляшняе канстытуцыі членам ураду мог быць толькі пратэстант. Сёлета выдана закон, які зьмяняе гэты артыкул канстытуцыі і дазваляе непратэстантам увайходзіць у склад ураду, толькі засьцерагаецца, што міністар асьветы мусіць быць пратэстант. Гэтая зьмна выклікана духам дэмакратызму і ростам каталіцызму ў Швэцыі.

### АДНОСІНЫ МІЖ КАТАЛІКАМІ І МАГАМЭТАНАМІ

Агэнства Райтэр паведамляе з Ватыкану, што Кангрэгацыя для Пашырэньня Веры нядаўна выдала дэкрэт, паводля якога на абшарах місыйнае дзейнасьці каталікі і магамэтане могуць тварыць супольны фронт у абароне веры супраць камунізму.

Звычайна магамэтане трымаюцца здалёк ад хрысьціянства, аднак наступаючы бязбожны камунізм змушае ўсіх веруючых у Бога шукаць абароны ды йсьці ў супрацьнступ у супольным фронце вернікаў.

### ВАРОЖАСЬЦЬ ДА РЭЛІГІІ Ў ЮГАСЛАВІІ НЯ СПЫНЯЕЦЦА

Ад таго, што югаслаўскія камуністы пасварыліся з маскоўскімі, ад гэтага не зьмянілі сваіх варожых адносінаў да рэлігіі і асабліва да каталіцызму. Нядаўна маршал Ціто ў гутарцы з былым дырэктарам УНРРА М. Гіршманам заявіў, што Я. Э. Арх. Стэпінач ня будзе звольнены з катаргі.

### ЧЭХАСЛАВАЦКІЯ КАТАЛІКІ У ЗМАГАНЬНІ

Каталіцкія біскупы Чэхаславаччыны на супольнай канфэрэнцыі ў Празе, якая адбылася сёлета ў лістападзе, выдалі інструкцыю духавенству, якое маюць трымацца ўсе і за ўсякую цану.

У Інструкцыі кажацца: 1) што духавенства можа прысягаць на вернасьць сучаснай дзяржаве толькі з дадаткам да устаноўленае дзяржаваю формулы: калі вымымогі вернасьці дзяржаве «ня будуць у супярэчнасьці з правам Божым, ці царкоўным, ці прыродным правам чалавека». 2) Ня прымаць дзяржаўнае платы, калі за яе будуць вымагаць «Юдавае слубжы». 3) Ня прызнаваць дзяржаўнага кантролю казаньняў і катэхізацыі. 4) Не зважаць на дзяржаўны дазвол і згоду ў справе замяшчэньня парахвіяў. 5) Да кожнага новага рэлігійнага абавязку патрэбная згода біскупа. 6) Ня прымаць дзяржаўных назначэньняў бяз папярэдняе згоды свайго біскупа. 7) Сьцерагчы пасьвячаных царкоўных рэчаў і не запісваць іх у дзяржаўныя інвэнтары.

### 1900-годзьдзе АПОСТОЛЬСКАЕ ПРАЦЫ

У 1950 г. споўніцца роўна 1900 гадоў ад таго часу, калі ап. Паўло першы раз завітаў у Грэцыю і пачаў там шырыць хрысьціянства. З гэтае нагоды ўсе рэлігійныя арганізацыі ў Грэцыі ўжо цяпер вядуць актыўную падрыхтоўку для ўрачыстага азначэньня гэтых вялікіх угодкаў.

### АЛЕКСАНДРЫЙСКІ ПАТРЫЯРХ У СПРАВЕ САБОРУ

Александрыйскі праваслаўны патрыярх Хрыстафор II асьведчыў эгіпэцкім журналістам, што Праваслаўная Царква мусіць учыніць усё магчымае, каб аб'яднаць усе раздробленыя Праваслаўныя Цэрквы ў сьвеце. Відаць, што гэтая раздробленасьць, якая часта вядзе да варожасьці і ўзаемнага выклінаньня ў лоне тае самае Царквы змушае адказных праваднікоў шукаць рады на гэтае сумнае зьявішча ў аб'еднаньні.

### ЛЯГЭР ДЛЯ ПАЛОННЫХ СЬВЯТАРОЎ

Паводля сьведчаньня нямецкіх палонных, якія нядаўна вярнуліся з СССР нямецкія каталіцкія ваенныя капэляны ў ліку 50 чалавек знаходзяцца ў адумысловым лягэры ў Уральскіх горах. Умовы жыцьця ў гэтым лягэры былі вельмі цяжкія, апошнім часам быццам мелі ўмовы жыцьця палепшыць.

### КРУЦЫЯТА ДАБРАДЗЕЙСТВА

Сёлета з пачыну шырокаведамага ў Італіі а. Лёмбарді разгарнулася актыўная каталіцкая прапаганда за хрысьціянскую спрвядлівасьць у сацыяльных адносінах і за абарону каталіцызму супраць камуністычнае прапаганды, якая ад некаторага часу інспіруецца рознымі цёмнымі сіламі на абшары Італіі. Найвыдатнейшыя італьянскія казнадзеі на чале з а. Лёмбарді пачынаючы ад 11-га лістапада штодзенна гаварылі казаньні ў каталіцкіх арганізацыях да прадстаўнікоў усіх пластоў грамадзтва: і да працадаўцаў і да працоўных, да прафэсароў унівэрсытэтаў і да вучняў, да сьвятароў і да вернікаў у перапоўненых цэрквах. Камуністычныя баёўкі часта стараліся перашкодзіць гэтым казаньням, але заўсёды сваімі інтрыгамі толькі ўзбуджалі большую цікавасьць грамадзянства да казаньняў. Таму, што праводнаю думкаю гэтых казаньняў было: заахвоціць народ да дабрадзейства ў хрысьціянскім дусе і да хрысьціянскае любві, дык увесь рух атрымаў назоў Круцыята Дабрадзейства. Урачыстае заканчэньня гэтае круцыяты адбылося 11-XII. З тэтае нагоды Сьвяцейшы Айцец адправіў урачыстую Службу Божую ў архібазыліцы сьв. Пятра.

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА

### ФОНД ДОБРАЕ КНІЖКІ.

Беларуская кніжка на эміграцыі ёсьць вялікаю рэдкасьцю, хоць існуюць ужо беларускія выдавецкія фонды, аднак магчымасьці іх вельмі абмежаваныя. Асабліва адчуваецца нястача ўзгадаваўчае літаратуры. Гэткія кніжкі ўжо ёсьць падрыхтаваныя да друку, але няма магчымасьці іх выдаць. Дзеля гэтага нядаўна пры Беларускіх Рэлігійных Місіях заложыўся Фонд Добрае Кніжкі. Управа Фонду гэтым шляхам зьвяртаецца да ўсіх людзей добрае волі дапамагчы сваімі ахвярамі да выданьне добрых кніжак.

Ахвяры можна слаць з Францыі і калёніяў на паштовае конта: **Paris CC 62 87 44, R. P. Horosko Leo, 95, rue de Sèvres, Paris YI.**

З Англіі і даменіяў: **Rev. d-r SipovicCeslau, Marian Hous, Holden Avenue, London.** N. 12.

### АЎСТРАЛІЯ.

#### Рады новаэмігруючым.

Кожны эмігрант-дыпіст, які едзе з Нямеччыны ў Аўстралію, можа браць з сабою багажу колькі хоча, таму ўсім рамесьнікам раіцца ўзяць з сабою ўсе інструманты, якія патрэбны для працы ў сваім фаху, бо ў Аўстраліі гэткія інструманты дорога каштуюць, а рамесьнікаў мала, затое яны маюць шмат работы і добра зарабляюць. Тут. напр., нельга знайсьці краўца, які-б пашыў касьцюм хутчэй, чым за паўгода — так завалены работаю. Праўды пакуль неадробіцца кантракт, нельга працаваць у сваім фаху, але пасьля — поўная воля.

Калі атрымоўваюцца дакуманты перад выездам, трэба абавязкава дапільнаваць, каб у пашпарце запісалі нацыянальнасьць беларускую, бо потым ў Аўстраліі зьмяняць гэтую рубрыку — клапатлівая справа; а беларусам жыць у Аўстраліі пад чужою нацыянальнасьцю няма ніякага сэнсу, наадварот можа быць шкодна.

Мець з сабою валюту ў далярах і фунтах забаронена, аднак у невялікай колькасьці яна ў дарозе вельмі прыдаецца нават на такую драбніцу, як паштовая марка. Вопратку варта браць з сабою ня толькі сьвяточную, але і рабочую, бо за багаж усёроўна нічога ня плоціцца. Некаторыя вязуць з сабою багажу цэлыя тоны. Калі аднак у багажы трапляецца некалькі аднолькавых рэчаў, дык тады трэба плаціць за іх мыта. Скрынкі з багажом трэба акаваць бляхаю, бо неакованыя часам падчас перакідваньня рассыпаюцца.

У ручным багажу з сабою варта мець блажэйшую вопратку і дзяружкі, бо калі ў караблі лішне душна, або калі карабель вельмі гойдаецца, прыходзіцца ляжаць на пострапе, а там не заўсёды чыста. З сабою можна мець па 200 амэрыканскіх папяросаў.

Хто крыху валодае ангельскаю мовай, той можа дастаць працу ў адміністрацыі ў пераходных лягэрох — зразумела, што нельга марнаваць гэткае магчымасьці, — і сам скарыстае і суродзічам тады зможа дапамагчы.

Вельмі было-б пажадана выязджаць групамі, каб было льга выступаць з народнымі песьнямі і танцамі; гэткія выступы ладзяцца на кожным караблі і ў кожным лягэры.

Прыехаўшы ў Аўстралію, трэба неадкладна навязаць лучнасьць з беларусамі, якія прыехалі раней, — ад іх можна атрымаць практычныя рады аб мяйсцовых адносінах.

Хутка мае быць зарганізаваны сталы Беларускі Камітэт у Аўстраліі, адрас яго будзе паданы ў прэсе.

### З.Ш.А.

#### Прыезд прэзыдэнта БНР.

У парадку аб'езду беларускіх асяродкаў на эміграцыі прэзыдэнт БНР інж. Абрамчык сёлета на пачатку сьнежня прыехаў у Злучаныя Штаты Паўночнае Амэрыкі.

### ІТАЛІЯ.

Невялікая колькасьць беларусаў, пражываючых у Італіі, нядаўна зарганізавала Беларускае Хрысьціянскае Аб'еднаньне. Тымчасам управа БХА знайходзіцца ў лягэры ІРО ў Пагані прав. Палермо.

### НЯМЕЧЧЫНА.

#### Прызнаньне БНК.

Пасьля доўгага стараньня галоўная кватэра ІРО ў Нямеччыне дня 21-Х г.г. прызнала Беларускі Нацыянальны Камітэт у Нямеччыне, як арганізацыю, якая рэпрэзэнтуе беларускіх ДП перад уладамі ІРО ў амэрыканскай зоне Нямеччыны.

#### Ліквідацыя царквы сьв. Еўфрасіні ў Рэгэнсбургу.

Як паведамляе «Беларускае Слова», у зьвязку з ліквідацыяй лягэру ДП ў Рэгэнсбургу, перастаў там існаваць цэнтр беларускага рэлігійнага жыцьця. Парахіяльную беларускую царкву сьв. Еўфрасіні Полацкае, пабудаваную ахвярамі беларускіх вернікаў былы беларускі праваслаўны япіскапат прадаў лютаранам, як рухомасьць.

#### Пераклад Бібліі на беларускую мову.

У шаснаццатым веку пераклад Бібліі на тагачасную беларускую мову зроблены др. Францішкам Скарынаю быў адным з трох першых у Эўропе. Аднак у выніку наступнага доўгага палітычнага паняволеньня краю аж да сёньняшняга дня ня мог быць выданы поўны пераклад Бібліі на беларускую мову. Усьведамляючы сабе вялікае значэ-

ньне Сьвятога Пісаньня для рэлігійнага народу, а нават і для літаратуры, група беларускіх сьвятараў і сьвецкіх ужо ад некалькі гадоў вядзе ахвярную працу над падрыхтоўкаю да друку перакладу на сучасную беларускую літаратурную мову ўсіх кнігаў Бібліі, бо да гэтага часу існуе толькі пераклад **Новага** Запавету і пару кнігаў Старога Запавету.

Сёлета ў канцы кастрычніка адбылася ў Ерэмэне канфэрэнцыя асобаў працуючых над перакладам. У выніку нарадаў быў створаны спэцыяльны «Камітэт для перакладу Бібліі на Беларускую Мову», заданьнем якога ёсьць стардынаваць працу перакладу, сачыць за яе навуковай дакладнасьцю і літаратурнай якасьцю рупіцца аб магчыма хуткім падрыхтаваньні да друку ўсіх кнігаў Сьвятога Пісаньня.

Праца перакладчыкоў валікая і ахвярная, аднак пры тэй грамадзкай ахвярнасьці, якую праявілі дагэтуль сябры Камітэту, можна спадзявацца, што ўзятае на сябе заданьне давядзе да поўнай рэалізацыі з вялікай карысьцю, як для нашага рэлігійнага, так і для агульна-нацыяльнага жыцьця.

### Адпускная грамата яп. Сяргею.

Сабор Украінскае Праваслаўнае Царквы на сваім чарговым паседжаньні ў Дільлінген прыняў дэлегацыяю ад Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы і ад БНР і на просьбу дэлегацыі дня 4-XI выдаў адпускную грамату яп. Сяргею Охоценко часоваму апякуну БАПЦ. Адначасна пастаноўлена ў найбліжэйшым часе хіратанізаваць у япіскапы а. Васілія Тамашчыка.

## ФРАНЦЫЯ.

### Угодкі Слуцкага Паўстаньня.

З нагоды 29-х угодкаў Слуцкага Паўстаньня дня 4-XII г.г. адбылася зборка беларускае парыскае калёніі ў салі Хрысьціянскага Сындыкату. Зборку адчыніў былы слуцкі паўстанец інж. Л. Рыдлеўскі і падзяліўся з прысутнымі сваімі ўражэньнямі з пройдзенага паўстанчага шляху. Наступна так-жа былы слуцкі паўстанец А. Яцэвіч прачытаў рэфэрат аб гісторыі Слуцкага Паўстаньня. Зборка закончылася агульным адсьпяваньнем гымну.

### Змены ў галоўнай упраўе БНАМ.

У зьвязку з магчымым хукім выездам з Францыі старшыні Беларускае Незалежніцкае Арганізацыі Моладзі ў Францыі Я. Філістовіча на чарговай месячнай зборцы БНАМ дня 4-XII часовае старшынства перадана М. Наумовічу.

### Сёмыя ўгодкі сьмерці а. экзарха А. Неманцэвіча.

Сёлета ў сьнежні месяцы споўнілася 7 гадоў ад часу трагічнае сьмерці першага экзарха грэка-каталіцкае Беларускае Царквы а. Антона Неманцэвіча. З гэтае нагоды Рэктар Беларускае Рэлігійнае Місіі ў Парыжу адправіў Службу Божую за а. Экзарха.

†

Пасьля доўгай і цяжкай хваробы дня 4-XI г. г. у парыскім шпіталі Ля Пітіе скончыў свой жыцьцёвы шлях Паўлоўскі Францішак у веку 27 гадоў. Пахаваньне адбылося 8-XI на магільніку «Thias».

З вялікім жалем паведамляюць аб гэтай сумнай вестцы ўсіх ягоных блізкіх, родных і знаёмых. Ягоныя сябры.

Няхай будзе яму лёгкай чужая зямелька!

### ПОШУКІ:

Знаёмых з в. Агароднік, каля Картускае Бярозы, шукае **Труцько** Антось.

Сыноў Тофіля **Паўлоўскага** з в. Навіны, якія выехалі ў Аргентыну ў 1934 г. і працавалі ў адным з банкаў у Буэнос Айрэс, шукае Баркоўскі Янка.

**Ломако Віктара** нар. 1925 г. у Браславе шукае бацька Ломако Тамаш.

Пісаць на адрэс рэдакцыі.

### ВЫДАВЕЦКІ ФОНД І ПАДПІСКА.

Апошнім часам прыслалі на «Божым шляхам»: Асіповіч П. — 500 фр., Аніська Д. — 1.000 фр., Баркоўскі Я. — 300 фр., Гамулка С. — 600 фр., Госьцееў Ю. — 200 фр., Захарэвіч І. — 200 фр., Захаронак С. — 1000 фр., Калодка А. — 1.600 фр., Касьцюк Г. — 500 фр., Касьцюкевіч В. 500 фр., Крыт А. — 250 фр. Лазанок М. — 500 фр., Лазоўскі Н. — 500 фр., Лось Г. — 250 фр., Міцкевіч А. — 100 фр., Нагорны Б. — 200 фр., Нестараў П. — 350 фр., Пузоўскі — 200 фр., Раманчук А. — 1000 фр., Скурат Ал. — 350 фр., Сенкевіч Г. — 250 фр., Скурко В. — 300 фр., Спічонак В. — 500 фр., Сыс У. — 1.000 фр., Тараскевіч У. — 500 фр., Хвалько — 500 фр., Чарнэцкі Я. — 900 фр., Шастайло С. — 2.830 фр., Янцэвіч К. — 1.000 фр. Усім ім рэдакцыя шле шчырую падзяку.

### ЗЬМЕСТ.




**Gérant : D. Kucopej.** **Directeur : Abbé L. Horosco.**

Impr. de Navarre, 11, rue des Cordelières, Paris.